№19(67)
Кастрычнік 2000

# ПРАВА НА ВОЛЮ

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"



Фота "ПнВ"

## ДЗЕЛЯ БАЙКОТУ ВЫБАРАЎ

Шэсьце і мітынг 14 кастрычніка беларускія ўлады так і не дазволілі. Яны сарвалі папярэднія дамоўленасьці і зноў хацелі накіраваць дэманстрантаў на плошчу Бангалор.

Тым ня менш, у 15 гадзінаў некалькі тысячаў грамадзянаў з тых, што прынялі рашэньне ня ўдзельнічаць у лукашэнкаўскім фарсе, сабраліся каля Акадэміі навук. Шэсьце пад лозунгамі аб байкоце выбараў прайшло па цэнтры беларускай сталіцы — па прасьпекце Скарыны і вуліцах Варвашэні, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы. Рух калоны дэманстрантаў рэгулявала дружына БНФ, міліцыянтаў па ўсім маршруце зусім не было відаць.

Мітынг адбыўся на плошчы Парыскай камуны. Выступы палітыкаў на ім зьмяніліся песьнямі бардаў ды паказам батлейкі. У цэлым акцыя апазіцыі атрымалася гэтым разам ня дужа шматлюднай, што можна растлумачыць найперш адсутнасьцю інфармацыі наконт яе. Але сваю функцыю заклікаць людзей да байкоту выбараў яна выканала.

Доўжылася акцыя каля трох гадзінаў. Арыштаў ды затрыманьняў не было. Пэўна, паўплывала на тое значная колькасьць міжнародных журналістаў, што прыехалі ў гэтыя дні ў Беларусь.



Фота "ПнВ"
На здымках: Мінск, 14 кастрычніка 2000 году, прасьпект Скарыны...

## ХРОНІКА

*29 верасьня* ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося адкрыцьцё выставы шведскай фотамастачкі Марыі Содэберг пад назовам "Пікнік. Беларусь". Выстава прыцягнула вялікую ўвагу грамадзкасьці, бо яна стала ня толькі культурнай зьявай, але і праваабарончай. Героі твораў Марыі Содэберг – родныя беларускіх палітвязьняў: сын, дачка і жонка Андрэя Клімава, дачка і ўнук Васіля Лявонава, дачка Валерыя Шчукіна, дачка і жонка Мікалая Статкевіча, Юлія Чыгір.

*4 кастрычніка* ўвагу Праваабарончага цэнтру "Вясна" прыцягнула публікацыя ў "Белорусской деловой газете" "Люди в сером", прысьвечаная дзейнасьці Упраўленьня крымінальнай разьведкі МУС РБ, у якой прыведзеныя факты супрацьзаконных дзеяньняў гэтага падраздзяленьня. Вось якім чынам апісваецца затрыманьне вядомага крымінальнага аўтарытэта "Галея": "Калі абшукалі "Галея", знайшлі ключы ад ягонай машыны (стаяла побач з кафэ), якія тут жа былі перададзеныя чалавеку ў шэрым касьцюме. Ён падышоў да машыны "Галея", адчыніў дзьверцы, дастаў з унутранай кішэні рэвальвер і засунуў яго пад сядзеньне, потым выняў з кішэні штаноў гранату і паклаў яе ў "бардачок". Пасьля гэтага чалавек у шэрым касьцюме зачыніў аўтамашыну "Галея", а ключы перадаў іншым супрацоўнікам крымінальнай разведкі, якія паклалі іх "Галею" у кішэню... Затым на месца здарэньня была выклікана следча-аператыўная група Цэнтральнага РАУС г.Мінску. Яна зрабіла агляд месца здарэньня, і ў прысутнасьці панятых сьледчы зафіксаваў канфіскацыю ў "Галея" рэвальвера і гранаты, знойдзеных у ягонай аўтамашыне". ПЦ "Вясна" выказвае занепакоенасьць наяўнасьцю падобных фактаў і зьвяртае ўвагу, што падобныя супрацьзаконныя метады выкарыстоўваюцца пакуль што супраць крымінальнікаў, але могуць быць выкарыстаныя і супраць іншых грамадзянаў краіны.

(Працяг на стар. 2)

# Дзяржава гарантуе юрыдычную дапамогу ўсім...

## Заява Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

*У Пракуратуру г. Мінску*
*Копія КНГ АБСЕ*

9 кастрычніка 2000 году ў Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" звярнуўся адвакат калегіі адвакатаў Партызанскага раёну г. Мінску Цурко Сяргей Іванавіч. У сваёй заяве Цурко С.І. указаў, што 9 кастрычніка 2000 году ён наведаў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік ГУУС Мінгарвыканкаму, дзе ў гэты час адбываў накладзенае пастановай суда Першамайскага раёну г. Мінску адміністратыўнае спагнаньне ў выглядзе арышту яго падабаронны Раманоўскі Уладзімір Іванавіч. Адвакат Цурко прыбыў у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік з мэтаю сустрэчы з Раманоўскім У.І. дзеля напісаньня скаргі на пастанову суда Першамайскага раёну. Аднак, нягледзячы на тое, што адвакат Цурко С.В. прадаставіў выпісаны ў адпаведным парадку ордэр і дамову, заключаную з Раманоўскім У.І., намесьнік начальніка сьпецпрыёмнікуразьмеркавальніку Дзембіцкі Ю.Н. у спатканьні з Раманоўскім У.І. адмовіў. Сваю адмову Дзембіцкі Ю.Н. матываваў тым, што спатканьне забароненае Пракуратурай г. Мінску.

У сувязі з гэтым, Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што сваімі дзеяньнямі намесьнік начальніка сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку Ю.Н.Дзембіцкі дапусьціў шэраг парушэньняў дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, незаконна абмежаваў гарантаваныя арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь правы Раманоўскага У.І. Так, згодна з арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, кожны мае права на юрыдычную дапамогу дзеля ажыцьцяўленьня і абароны правоў і свабодаў, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіраваньня, на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, грамадзкіх аб'яднаньнях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі.

Супрацьдзеяньне аказаньню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца. Акрамя таго, адвакат Цурко С.І. заключыў дамову аб аказаньні юрыдычнай дапамогі з Раманоўскім В.І. і прыбыў у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік дзеля правядзеньня кансультацый і напісаньня скаргі на пастанову па справе аб адміністратыўным правапарушэньні ў вышэйстаячую судовую інстанцыю. Згодна з арт. 4 Закона РБ "Аб адвакатуры", дзяржава гарантуе юрыдычную дапамогу ўсім, хто мае ў ёй неабходнасьць, без якога-небудзь абмежаваньня.

Любая фізічная альбо юрыдычная асоба на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь мае права зьвярнуцца па юрыдычную дапамогу да адваката (па сваім выбары) дзеля абароны сваіх правоў і законных інтарэсаў у судах, іншых органах і арганізацыях, у кампетэнцыі якіх знаходзіцца рашэньне адпаведных прававых пытаньняў.

Затрыманаму, арыштаванаму альбо асуджанаму дзеля аказаньня юрыдычнай дапамогі забясьпечваюцца неабходныя ўмовы дзеля сустрэчаў і кансультацыяў з адвакатам з выкананьнем іх поўнай канфідэнцыйнасьці.

Прафесійная абарона правоў і законных інтарэсаў фізічных і юрыдычных асобаў па крымінальных, грамадзянскіх справах і справах аб адміністратыўных правапарушэньнях у сьледчых і судовых органах ажыцьцяўляюцца толькі адвакатамі.

Рада Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што дадзены выпадак зьяўляецца грубым парушэньнем правоў Раманоўскага У.І., і вымушаная зьвярнуцца ў Пракуратуру г.Мінску з просьбай у парадку пракурорскага нагляду за выкананьнем законаў у месцах утрыманьня затрыманых, папярэдняга затрыманьня, пры выкананьні пакараньняў і іншых мераў прымусовага характару, прызначаных судом, правесьці праверку указаных фактаў і прыняць меры пракурорскага рэагаваньня з мэтай прадухіленьня падобных выпадкаў у будучым.

**Старшыня Рады Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна"**
**А. БЯЛЯЦКІ.**

---

# Падзеі Факты Каментары

*(Пачатак на стар.1)*

***5 кастрычніка*** з Аршанскай калоніі быў вызвалены па амністыі былы міністр сельскай гаспадаркі Беларусі *Васіль Лявонаў*. Амністыя стала мажлівай таму, што В.Лявонаву больш за 60 гадоў, ён ужо адбыў больш за палову тэрміну пакараньня і не парушаў рэжым. Нагадаем, што палітвязень В.Лявонаў быў арыштаваны 14 лістападу 1997 году і асуджаны 14 студзеня гг. за нібыта крадзяжы маёмасьці ў буйных памерах на 4 гады пазбаўленьня волі і з пазбаўленьнем права на два гады займаць кіруючыя пасады. В.Лявонаў лічыць арганізаваны супрац яго перасьлед палітычным і што прычынай яго сталі спробы рэфармаваць сельскую гаспадарку, якія не прыйшліся даспадобы А.Лукашэнку.

***10 кастрычніка*** ў Мінску ўвечары брытагаловыя фашысты зьбілі *Уладзіміра Емяльянчыка і Аляксандра Ружалоўскага* за беларускую мову. Гэта адбылося ў цэнтры беларускай сталіцы на прасьпекце Скарыны (каля ГУМу). Брытагаловыя пачулі, што маладыя людзі размаўляюць пабеларуску, і пачалі іх зьбіваць. Па словах сьведкі Зьміцера Каліноўскага (ён пражывае ў доме па пр.Скарыны), міліцыянты ўсё бачылі, але бязьдзейнічалі. У выніку Уладзімір Емяльянчык з траўмамі дастаўлены ў бальніцу.



Суд над Юліяй ЧЫГІР у чарговы раз адкладзены... Фота "ПнВ"

***10 кастрычніка*** да сяброў "Задзіночаньня беларускіх студэнтаў" *С.Залеўскага* прыйшло паведамленьне з амбасады Сацыялістычнай Рэспублікі Куба, у якім утрымліваліся прабачэньні за адкліканьне запрашэньня прыняць удзел у кангрэсе па пытаньні "Узаемаадносіны ўлады і студэнцкае самакіраваньне" (адбудзецца з 15 па 19 лістапада гг. у Гаване). Справа ў тым, што супрацоўнікі кубінскай амбасады самі вызначылі ўдзельніка кангрэсу, бо ім стала вядома, што ЗБС займаецца праблемай студэнцкага самакіраваньня. Але калі пачалося афармленьне дакументаў, у гэтую справу ўмяшаўся Мінюст Беларусі, які "настойліва рэкамендаваў Міністэрству па справах моладзі і прапаганды Сацыялістычнай Рэспублікі Куба не запрашаць на кангрэс арганізацыі, якія ня маюць статус агульнадзяржаўных", а запрасіць прадстаўнікоў Беларускага Патрыятычнага Саюзу Моладзі. Такім чынам, Мінюст Беларусі прадэманстраваў у чарговы раз, што БПСМ зьяўляецца прадзяржаўнай маладзёжнай арганізацыяй, а ЗБС аднёс у разрад апазіцыйных. Што тычыцца юрыдычнага статусу ЗБС, то гэтая арганізацыя таксама рэспубліканская, але, відаць, чыноўнікам з Мінюсту не падабаецца яе незалежнасьць ад беларускіх уладаў.

***На пачатку кастрычніка*** ў Мінску была канфіскаваная маёмасьць былога старшыні Нацбанку Беларусі *Тамары Віньнікавай*. Падставай дзеля канфіскацыі стаў дэкрэт А.Лукашэнкі, які ён падпісаў летась. Дэкрэт прадугледжвае пазасудовую канфіскацыю маёмасьці асобаў, якія ўчынілі супрацьпраўныя дзеяньні з нанясеньнем буйных матэрыяльных стратаў дзяржаве. Т.Віньнікава, якая цяпер знаходзіцца ў Англіі і мае там статус палітычнага ўцекача, заявіла, што зьбіраецца абскардзіць гэтае рашэньне праз суд, бо калі беларускія ўлады маюць да яе прэтэнзіі, дык яны могуць заявіць іх у адпаведнасьці з міжнароднымі прававымі нормамі.

# Беларусь пратэстуе

***8 кастрычніка па ўсёй Беларусі, ва ўсіх буйнейшых гарадах краіны адбыліся акцыі пратэсту супраць недэмакратычных выбараў у парламент, наладжаных уладамі. Мітынгі, шэсьці, пікеты, арганізаваныя апазіцыйнымі сіламі ў межах агульнадзяржаўнай акцыі "Байкот-2000", упершыню за апошнія гады прайшлі так масава не ў сталіцы краіны, а ва ўсіх рэгіёнах.***

***У Магілёве*** мітынг быў несанкцыянаваны, прысутнічала каля 300 грамадзянаў. За акцыяй сачылі больш за 30 міліцыянтаў, вяліся відэаздымкі. Перад пачаткам мітынгу супрацоўнікі міліцыі блакавалі выхады з магілёўскага офісу БНФ "Адраджэньне", абшуквалі ўсіх, хто выходзіў адтуль – рабілі агляд асабістых рэчаў, шукалі агітацыйныя матэрыялы і плакаты. Праз такі дагляд прайшло 20 чалавек.

***У Брэсьце*** падчас распаўсюджаньня газеты "Рабочы" і першага нумару грамадзка-палітычнай газеты "Наш выбар" (Брэсцкай абласной рады БНФ) старэйшым сяржантам С.Бабнішчавым быў затрыманы ***Рыгор Варвашэвіч.*** Апроч таго, ён раздаваў запрашэньні прыняць удзел у акцыі. Р.Варвашэвіча даставілі ў РУУС Маскоўскага раёну г.Брэсту, дзе абшукалі. Р.Варвашэвіч патрабаваў дазволу патэлефанаваць у ПЦ "Вясна". Урэшце пратакол ня быў складзены, а ў 15.35 маёр Журан выказаў затрыманаму Р.Варвашэвічу свае прабачэньні і адпусьціў. Супрацоўнікі міліцыі аддалі ўсе газеты. Р.Варвашэвіч быў затрыманы да пачатку акцыі. У Брэсьце ў акцыі ўзялі ўдзел звыш 2000 чалавек. Удзельнікі акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой было сказана: "Абвешчаныя ўладамі 15 кастрычніка выбары ў "палату прадстаўнікоў" не зьяўляюцца ані свабоднымі, ані справядлівымі. Рэжым ня выканаў ніводнага з 4-х патрабаваньняў Еўрапейскай супольнасьці. Зыходзячы з гэтага, удзельнікі мітынгу заклікаюць берасьцейцаў выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права – не ісьці на выбары, ня браць удзелу ў фарсе, які за народныя грошы ставіць нелегітымны "прэзідэнт", каб захаваць сваю нелегітымную ўладу".

***У Віцебску*** пасьля заканчэньня акцыі былі затрыманыя 7 чалавек. Іх затрымалі за збор подпісаў за "свабодныя і дэмакратычныя выбары" (выкананьне чатырох умоваў АБСЕ). Сярод затрыманых: ***Аляксандр Прахарэнка, Марат Волкаў, Сяргей Сьмірноў, Андрэй Саўчанка, Сяргей Доўгі, Сяргей Васенка...*** Затрыманых даставілі ў РУУС Кастрычніцкага раёну, дзе пратрымалі каля гадзіны, склалі пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні. Позвы ў суд павінны прыйсьці на хатнія адрасы.

***У Горадні*** ў шэсьці і мітынгу ўзялі ўдзел 1500 чалавек. На патэнцыйных удзельнікаў акцыі аказваўся моцны псіхалагічны ўціск – па мясцовым тэлебачаньні папярэджвалі, што акцыя забароненая, запалохвалі магчымымі карамі. 7 кастрычніка ў 23.00 за распаўсюджаньне запрашэньняў на мітынг быў затрыманы ***Мікалай Івашын*** (28 гадоў).

***У Баранавічах*** на мітынг сабралася каля 500 чалавек. Акцыя доўжылася дзьве гадзіны, днём усё абышлося без затрыманьняў і правакацыяў. Але ўвечары, у 21.00, да аднаго з актыўных удзельнікаў акцыі ***Міхаіла Барысевіча*** прыходзілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку. М. Барысевіч адчыніў ім дзьверы сказаў: "Я сёньня нічога не ўкраў. Калі я вам патрэбны, дасылайце позву". Варта адзначыць, што Міхаіл Барысевіч падчас акцыі зьбіраў подпісы за "свабодныя і дэмакратычныя выбары" (выкананьне чатырох умоваў АБСЕ).

***У Салігорску*** былі затрыманыя ***Анатоль Лобан*** (БНФ "Адраджэньне", ***Галасаў*** (АГП), ***Валянцін Баранаў*** (БНФ "Адраджэньне"). Затрыманых даставілі ў аддзяленьне міліцыі, дзе пратрымалі 2 гадзіны. На Лобана і Голасава былі складзеныя пратаколы.

*(Працяг на стар.8)*







***На здымках: шэсьце і мітынг у Віцебску 8 кастрычніка 2000 году.***






# Арышты і затрыманьні

***28 верасьня*** ў Слуцку быў затрыманы ***Сяргей Драбеня***, які распаўсюджваў газету "Рабочы" і зьбіраў подпісы за свабодныя і дэмакратычныя выбары (за выкананьне чатырох умоваў АБСЕ). С.Драбеня быў дастаўлены ў аддзяленьне міліцыі, дзе яго пратрымалі да 2 гадзінаў ночы. С.Драбеню зьбілі, газеты канфіскавалі. Яму інкрымінуюць арт. 167.3 КаАП РБ (парушэньне заканадаўства аб выбарах).

***29 верасьня*** "Магілёўскі праваабарончы цэнтр" атрымаў з упраўленьня юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму патрабаваньне, у якім сказана: "Згодна з прадстаўленьнем Пракурора Магілёўскай вобласьці аб ліквідаваньні парушэньняў Закону РБ "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", якія дапушчаныя пры рэгістрацыі Статуту Грамадзкага аб'яднаньня "Магілёўскі праваабарончы цэнтр", Вам неабходна ліквідаваць гэтыя парушэньні". "Парушэньнем" (згодна з прадстаўленьнем) у дадзеным выпадку пракурор Магілёўскай вобласьці А.Дудкін лічыць тое, што ў Статуце праваабарончага цэнтру закладзена, што арганізацыя можа абараняць правы сяброў аб'яднаньня, а таксама асобаў, якія зьвярнуліся па дапамогу ў аб'яднаньне. Пракурор сьцьвярджае, што "законам ("Аб грамадзкіх аб'яднаньнях") не ўсталявана права грамадзкіх аб'яднаньняў ажыцьцяўляць абарону правоў і законных інтарэсаў асобаў, якія не зьяўляюцца іх сябрамі". Такім чынам, гэта азначае, што праваабаронцы могуць абараняць толькі сяброў сваіх арганізацыяў, а ня тых людзей, якія зьвярнуліся да іх па дапамогу. "Магілёўскі праваабарончы цэнтр" папярэджаны, што "у выпадку адмовы (выпраўляць палажэньні Статуту) пытаньне будзе разгледжанае ў судовым парадку".

***1 кастрычніка*** кіраўнік віцебскага цэнтру моладзевых ініцыятываў ***Юрась Корбан*** ехаў у Мінск на Марш Свабоды. На станцыі Орша Ю.Корбан быў затрыманы нарадам чыгуначнай міліцыі за расклейку налепак "Байкот-2000" і "Марш Свабоды". У аддзяленьні міліцыі быў складзены пратакол, які затрыманаму не паказалі.

***2 кастрычніка*** ў судзе Першамайскага раёну г.Мінску была разгледжаная справа ***Сяргея Шынкевіча***, які 15 верасьня падчас сустрэчы з выбаршчыкамі каля ўніверсаму "Першамайскі" у мікрараёне Уручча беларускай сталіцы быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. На яго быў складзены пратакол адміністратыўнага правапарушэньня па арт. 167.1 ч.2 (арганізацыя несанкцыянаванага пікету) і выдадзеная позва ў суд на 18 верасьня. Судовы разгляд адміністратыўных матэрыялаў па справе С. Шынкевіча з 18 верасьня быў перанесены судзьдзёй суда Першамайскага раёну г.Мінску Ю.А.Гарбатоўскім на 2 кастрычніка. У гэты дзень было вынесенае рашэньне: прызнаць С. Шынкевіча вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету і спагнаць з яго штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў.

***2 кастрычніка*** ў гадзіну ночы ў Горадні затрыманы ***Сяржук Паўленка*** (сябра БНФ "Адраджэньне"). У яго асабістай машыне быў зроблены вобыск і знойдзеныя 16 тысячаў улётак, прысьвечаных байкоту выбараў 15 кастрычніка. Пасьля вобыску С.Паўленка быў дастаўлены ў РУУС Кастрычніцкага раёну г.Горадня, дзе ўлёткі былі канфіскаваныя. У 6 гадзінаў раніцы супрацоўнікі міліцыі прынесьлі дахаты С.Паўленку позву з выклікам на допыт да намесьніка начальніка Кастрычніцкага РУУС падпалкоўніка В.Сідара. С.Паўленка зьвярнуўся па дапамогу ў гарадзенскую філію ПЦ "Вясна".

***2 кастрычніка*** дамоў да ***Станіслава Шушкевіча*** (Старшыні Вярхоўнага Савету РБ 12-га скліканьня) прыязджалі міліцыянты, хацелі ўручыць позву ў суд Заводзкага раёну. С.Шушкевіча дома не было, а ягоная жонка адмовілася браць позву. Зранку міліцыянты зьявіліся зноў. На гэты раз ім трэба было ўручыць новую позву, каб С.Шушкевіч зьявіўся ў якасьці сьведкі ў суд Савецкага раёну. Пасьля таго, як позву ніхто ня ўзяў, быў прысланы міліцыянт, узброены аўтаматам, які заняў пазіцыю каля дзьвярэй кватэры С.Шушкевіча. Паводле сьведчаньня жонкі С.Шушкевіча, аўтаматчык знаходзіўся ў пад'езьдзе працяглы час.

***3 кастрычніка*** ў г.Брэсьце а 22 гадзіне на аўтобусным прыпынку ля плошчы Леніна да сябра Брэсцкага аддзяленьня ПЦ "Вясна" ***Васіля Андрасюка*** падышоў чалавек у цывільным, які назваў прозьвішча Андрасюка і паказаў сваё пасьведчаньне супрацоўніка крымінальнага вышуку Ленінскага РАУС. Затым прапанаваў прайсьці з ім у памяшканьне гарбальніцы, якое знаходзіцца насупраць прыпынку, адкуль патэлефанаваў у Ленінскі РАУС, каб паведаміць пра затрыманьне. Прычыну затрыманьня ён патлумачыў тым, што нібыта Андрасюк на плошчы Леніна чапляўся да людзей і раздаваў бэнээфаўскую літаратуру. Пасьля тэлефанаваньня супрацоўнік крымінальнага вышуку перадаў Андрасюка пад нагляд міліцыянта, папярэдзіўшы, што перад ім палітычны злачынца. Праз 40 хвілінаў па Андрасюка прыехалі на патрульнай машыне і даставілі ў Ленінскі РАУС. Участковы лейтэнант Капылоў склаў са словаў Андрасюка тлумачэньне і папярэдзіў, што ягоная палітычная актыўнасьць магчыма будзе спыненая шляхам узбуджэньня крымінальнай справы па арт. 190 КК РБ (прысвойваньне ўладных паўнамоцтваў). У РАУС у В.Андрасюка былі канфіскаваныя 967 улётак "Тэхналогія падману", 407 налепак і 2 відэакасеты. Не складаючы пратаколу аб адміністратыўным затрыманьні, В.Андрасюка адпусьцілі. Гэта ўжо другое затрыманьне сябра ПЦ "Вясна". Першае адбылося 26 верасьня, калі на вуліцы Савецкай В.Андрасюк быў затрыманы падчас распаўсюджваньня газеты "Рабочы" №38 (141) ад 14-20 верасьня 2000 г. У той дзень патрульны нарад на службовай машыне даставіў В.Андрасюка ў Ленінскі РАУС г.Брэсту, дзе на затрыманага быў складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні па арт. 172.3 КаАП РБ (распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных), хоць газета "Рабочы" зьяўляецца выданьнем, зарэгістраваным у Дзяржкамдруку РБ. Адміністратыўныя матэрыялы былі перададзеныя па месцы жыхарства В.Андрасюка ў Жабінкаўскі гарвыканкам на адміністратыўную камісію.

***3 кастрычніка*** ў ПЦ "Вясна" зьвярнуўся непаўнагадовы жыхар г.Жодзіна (Мінская вобл.) ***Павал Красоўскі***, які 27 верасьня ў г.Жодзіна быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. П. Кра-соўскага затрымалі каля пад'езду ўласнага дому ў 22.40, дзе ён у кампаніі з іншымі падлеткамі сьпяваў пад гітару. Супрацоўнікі міліцыі зьявіліся нечакана, паставілі падлеткаў тварамі да сьцяны і абшукалі (супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі згодна з пастановай, паводле якой падлеткі не павінны зьяўляцца позна ўвечары на вуліцы без суправаджэньня дарослых). Пры вобыску ў П.Красоўскага былі знойдзеныя налепкі "Байкот-2000" і "Марш Свабоды". П.Красоўскі сьцьвярджае: "Пры затрыманьні міліцыянты перавысілі свае паўнамоцтвы: нецэнзурна лаяліся, білі і аказвалі псіхалагічны ціск. Зараз на мяне заведзены дзьве адміністратыўныя справы (арт. 143 КаАП – антысанітарыя, арт. 172 КаАП – распаўсюджаньне друкаванай прадукцыі, вырабленай з парушэньнем усталяванага парадку без выходных дадзеных, зьмест якіх накіраваны на нанясеньне стратаў дзяржаўнаму і грамадзкаму парадку). На допыце супрацоўнікі міліцыі пыталіся ў П.Красоўскага: ці не супрацоўнічае ён з украінскай арганізацыяй УНА УНСО і колькі яму плоцяць за распаўсюджаньне налепак? Распавядалі пра тое, што А.Лукашэнка дае ўсім дзецям бясплатную адукацыю, палохалі рэпрэсіямі 30-х гадоў і апісаньнямі камераў у турме КДБ. Прозьвішчы міліцыянтаў Дзінісюк і Хамяшэвіч.

***3 кастрычніка*** супрацоўнікі міліцыі прыходзілі дамоў і да старшыні БНФ "Адраджэньне" ***Вінцука Вячоркі.*** Сын В.Вячоркі ім не адчыніў дзьверы.

***4 кастрычніка*** ў суд Савецкага раёну да судзьдзі Іны Шэйко супрацоўнікамі міліцыі на службовай машыне была дастаўленая ***Людміла Гразнова*** (дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня). Людмілу Гразнову абвінавачвалі ў тым, што яна публічна заклікала да байкоту выбараў, ёй інкрымінавалі арт 167.3 КаАП РБ (парушэньне заканадаўства аб выбарах). Прагледзелі відэаматэрыялы, апыталі сьведкаў. Суд быў перанесены на 5 кастрычніка 10.00, бо судзьдзя І.Шэйка сказала, што "вагаецца і ёй трэба падумаць".

***4 кастрычніка*** судзьдзя па адміністратыўных справах суда Маскоўскага раёну г. Мінску Дзьмітры Антановіч сваёй пастановай прызнаў вінаватым у парушэньні арт. 167.1 КаАП РБ (парушэньне парадку правядзеньня і арганізацыі шэсьцяў, мітынгаў, дэманстрацыяў і пікетаваньня) ***Сяргея Альфера***. Згодна з пастановай суда ён падвергнуты адміністратыўнаму спагнаньню ў выглядзе папярэджаньня. Нягледзячы на довады падсуднага і яго абароны аб тым, што сустрэча з выбаршчыкамі праходзіць згодна з арт. 45 Выбарчага кодэксу РБ і не патрабуе дазволу Мінгарвыканкаму, судзьдзя Д. Антановіч кваліфікаваў гэтую сустрэчу, як несанкцыянаваны пікет. Судзьдзя не прыняў да ведама так сама і той факт, што С. Альфер зьяўляўся афіцыйна зарэгістраваным назіральнікам па выбарчай акрузе № 100 і як прадстаўнік грамадзкай арганізацыі "Беларускі цэнтр канстытуцыяналізму і параўнальна-прававых дасьледаваньняў", якая вылучыла яго назіральнікам за правя-

дзеньнем выбараў, мае права прысутнічаць на ўсіх перадвыбарчых агітацыйных мерапрыемствах. Факт няўдзелу С. Альфера ў "пікеце" пацьвердзіў нават сьведка-міліцыянт, які прысутнічаў пры затрыманьні ўдзельнікаў сустрэчы з выбаршчыкамі. Але ж судзьдзя вырашыў усё пасвойму.

***6 кастрычніка*** у Першамайскім раённым судзе г.Мінску было вынесенае рашэньне па адміністратыўнай справе аднаго з кіраўнікоў АГП ***Уладзіміра Раманоўскага***. Яго абвінавачвалі ў несанкцыянаваным пікетаваньні, якое нібыта адбылося 25 верасьня, калі У.Раманоўскі каля станцыі метро "Усход" трымаў плакат "Сустрэча з выбаршчыкамі". Тады У.Раманоўскаму была выдадзеная позва ў аддзел міліцыі Першамайскага раёну на наступны дзень. У аддзяленьні міліцыі 26 верасьня на У.Раманоўскага быў складзены пратакол адміністратыўнага правапарушэньня па арт. 167.1 ч.2 (арганізацыя несанкцыянаванага пікету). Суд быў прызначаны на 5 кастрычніка, а працяг яго адбыўся 6 кастрычніка. Судзьдзя С.Несінаў, нягледзячы на довады У.Раманоўскага, што ён мае права падчас выбарчай кампаніі агітаваць як "за", так і "супраць" любога кандыдата (згодна з арт. 45 Выбарчага кодэксу РБ), прызнаў яго вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету і прыцягнуў да адміністратыўнай адказнасьці ў выглядзе 10 сутак арышту. У зале суда У.Раманоўскі быў узяты пад варту і накіраваны адбываць пакараньне ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік.

***6 кастрычніка*** ў г.Салігорску (Мінская вобл.) каля 23 гадзінаў супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя ***Андрэй Лапановіч і Зьміцер Тычына.*** Затрыманыя былі дастаўленыя ў аддзяленьне міліцыі, дзе на іх былі складзеныя пратаколы адміністратыўнага правапарушэньня па арт. 167.3 КаАП РБ і былі канфіскаваныя 2 500 абвестак пра маючы адбыцца 8 кастрычніка мітынг, прысьвечаны кампаніі «Байкот — 2000», і нумары праваабарончага бюлетэню "Права на волю". Праз тры гадзіны затрыманых адпусьцілі.

***9 верасьня*** ў судзе Фрунзенскага раёну г. Мінску павінен быў адбыцца разгляд справы ***Андрэя Церашкова, Лявона Садоўскага*** і ***Натальлі Емельянавай***. Усе яны абвінавачваліся ў парушэньні арт. 167. 3 КаАП РБ. Судзьдзя Уладзімір Карноў доўга думаў, а пасьля адмовіўся разглядаць адміністратыўныя матэрыялы і накіраваў іх на дапрацоўку ў міліцыю, спаслаўшыся на арт. 234.1 КаАП РБ (паўнамоцтвы службовых асобаў па складаньні пратаколаў па адміністратыўных



Мінск, 14 кастрычніка 2000 году.

правапарушэньнях). Судзьдзя прыйшоў да высновы, што супрацоўнікі міліцыі ня маюць права складаць пратакол па арт. 167. 3 КаАП РБ — складаньне пратаколаў па гэтым артыкуле адносіцца выключна да кампетэнцыі выканкамаў. З гэтага вынікае, што альбо судзьдзя У.Карноў ня ведае пра існаваньне рашэньня Мінгарвыканкаму ад 18.03. 99 г. №265, якім супрацоўнікам міліцыі надаецца права складаць пратаколы па арт. 167.3, альбо гэта агульная тэндэнцыя апошніх дзён – і судовы перасьлед за заклікі да байкоту будзе спынены. Гэтую тэндэнцыю пацьвердзіў прадстаўнік адміністрацыі прэзідэнта сп.Сазонаў падчас сустрэчы з арганізатарамі Маршу Свабоды 14 кастрычніка ў Мінгарвыканкаме. Сп.Сазонаў сказаў, што адміністратыўных справаў за байкот у Мінску больш ня будзе. Калі гэта так, дык мы маем яшчэ адно сьведчаньне таго, што суды ў нашай краіне не зьяўляюцца незалежнымі, а выконваюць загады, што прыходзяць зьверху.

***10 кастрычніка*** ў Віцебску атрадам АМАПу (каля 15 чалавек з аўтаматамі) быў затрыманы ***Яніс Чучман*** (Малады Фронт), які расклейваў улёткі з тэкстам "Моладзь на выбары ня пойдзе". Затрыманы быў дастаўлены ў РУУС Першамайскага раёну г. Віцебску, куды адразу накіраваліся прадстаўнікі ПЦ "Вясна" і БНФ "Адраджэньне". На пытаньне пра прычыну затрыманьня дзяжурны прапаршчык А.Варапаеў адказаў, што Я.Чучман падазраецца ў зьдзяйсьненьні супрацьпраўных дзеяньняў і затрыманы дзеля высьвятленьня асобы (Я.Чучман ня меў пры сабе пашпарту). Пасьля складаньня пратаколу (арт.167.3 – парушэньне заканадаўства аб выбарах) Я.Чучман быў зьмешчаны ў клетку і чакаў пераняшчэньня ў суд.

***10 кастрычніка*** арганізатары шэсьця і мітынгу ў г.Оршы (Віцебская вобл.), прысьвечаных байкатаваньню выбараў, ***Віктар Андрэеў*** і ***Юры Санько*** атрымалі позвы ў аддзяленьне міліцыі гораду. 11 кастрычніка на іх былі складзеныя пратаколы адміністратыўнага правапарушэньня па арт. 167.1 КаАП РБ (парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў), і на 12 кастрычніка прызначаны судовы разгляд.

***10 кастрычніка*** жыхар г.Маладэчна, сябра БНФ ***Алесь Дудка*** знаходзіўся ў бары, калі туды ўвайшлі супрацоўнікі міліцыі. Яны пазналі А.Дудку і сталі да яго чапляцца з патрабаваньнем паказаць, што знаходзіцца ў ягонай торбе (відаць, яны чакалі знайсьці матэрыялы, зьвязаныя з байкатаваньнем выбараў). А.Дудка адмовіўся, і міліцыянты сталі чакаць фронтаўца каля выхаду з бару. За гэты час сябра БНФ аддаў сваю торбу знаёмым, а сам выйшаў. Калі міліцыянты ўбачылі, што ў руках А.Дудкі нічога няма, яны пачалі яго зьбіваць і патрабаваць, каб ён сказаў, каму аддаў свае рэчы. Затым яны зрабілі ператрус у бары, знайшлі торбу і адвезьлі А.Дудку ў аддзяленьне міліцыі г.Маладэчна. Там на затрыманага склалі пратакол адміністратыўнага правапарушэньня, абвінаваціўшы яго ў "дробным хуліганстве". Да раніцы А.Дудка знаходзіўся ў пастарунку, а раніцай 11 кастрычніка яго адвезьлі ў суд. Судзьдзя прызнаў А.Дудку вінаватым і вынес рашэньне аштрафаваць яго на 900 рублёў. А.Дудка абураны такім прысудам і зьбіраецца яго абскарджваць.

***12 кастрычніка*** ў Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуўся студэнт 4 курсу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэту, які паведаміў, што на лекцыю па статыстыцы да іх зьявіўся дэкан факультэту В.Н. Платонаў. Мэтай ягонага прыходу была гутарка са студэнтамі пра ўдзел у выбарах. Спадар Платонаў сказаў, што ўсе студэнты павінны прыйсьці на выбары і падмацаваў гэта пагрозамі высяленьня з інтэрнату іншагародніх. Гутарка скончылася тым, што дэкан сказаў: "Вы разумееце, мне трэба дапрацаваць да пенсіі". Гэта сьведчыць пра тое, што ціск робіцца ня толькі на студэнтаў, але і на выкладчыкаў.

***12 кастрычніка*** стала вядома, што ў Беларускім універсітэце культуры намесьнік дэкана факультэту бібліятэчна-інфармацыйных сістэмаў Галіна Дуркіна зьняла ўвесь паток з лекцыі па сусьветнай літаратуры. Студэнтаў, якія жывуць у інтэрнаце, накіравалі на прымусовае датэрміновае галасаваньне. Кіраўніцтва ўніверсітэту небеспадстаўна хвалюецца, што 15 кастрычніка (нядзеля) іншагароднія зьедуць дамоў і не прагаласуюць. Датэрміновае галасаваньне адбывалася з парушэньнямі Закону аб выбарах – замест пашпартоў студэнты прад'яўлялі студэнцкія білеты (студэнцкі білет не зьяўляецца дакументам, які замяняе пашпарт – там не адзначанае грамадзянства, прапіска і г.д.).

***14 кастрычніка*** ў 2 гадзіны ночы ў г.Кобрыне супрацоўнікамі пазаведамаснай аховы былі затрыманыя 4 жыхары гораду, сярод якіх непаўнагадовы Вакульчык Зьміцер і ягоны брат Вакульчык Андрэй. У затрыманых праверылі дакументы і торбы, у якіх знайшлі брашуру "Край" і бюлетэнь "Змагар". Паколькі толькі ў братоў былі пры сабе пашпарты, былі перапісаныя іх дадзеныя, і маладых людзей адпусьцілі, але ў 7 гадзінаў раніцы да Вакульчыкаў дахаты прыйшлі супрацоўнікі міліцыі з аўтаматамі і павезьлі хлопцаў у РАУС г.Кобрыну. Там іх пратрымалі каля гадзіны і адпусьцілі не складаючы пратаколаў, сказаўшы, што гэтая справа не адносіцца да іх сьферы дзейнасьці. Наступны раз узброены нарад аператыўных работнікаў пад кіраўніцтвам сяржанта Сідарука завітаў дадому да братоў Вакульчыкаў у 12.30, каб другі раз даставіць у РАУС. Дапытвалі братоў у РАУС начальнік міліцыі Седзін і сьледчы па асабліва важных справах старэйшы опера паўнаважаны крымінальнага вышуку С.Марковіч. Яны прымушалі братоў прызнацца, што тыя расклейвалі ўлёткі і налепкі ў Кобрыне, але тыя адмаўляліся, бо доказаў іх вінаватасьці ніякіх не было. Не дабіўшыся прызнаньня, сьледчы і начальнік міліцыі сталі запалохваць маладых людзей, што звольняць з працы іх маці і Андрэя Вакульчыка, а Зьміцера выключаць з вучэльні. Пасьля допыту, не складаючы пратаколу, у хлопцаў узялі адбіткі пальцаў і адпусьцілі.

